 

# УСЕ НА ВЫБАРЫ!


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА.

№ 22 (483) | ГОД X | 30 МАЯ 1965 года | ЦАНА 60 гр.





# ТВОЙ ПАЧЭСНЫ АБАВЯЗАК

Вясна! Яе подых адчуваецца паўсюдна. Не толькі ў яркім сонцы і пагодлівых днях. Глянь, сябра, больш уважліва навокал, і ты ўбачыш, пачуеш, як магутна б'ецца пульс жыцця нашай краіны. Убачыш, як дбайна апрацоўвае поле хлебароб. Пачуеш, як у Новай Гуце звініць сталь. Глыбока пад зямлёй спаборнічаюць шахцёры Шлёнска. Выплываюць у мора нашы караблі.

Не спыняецца ўдарная вахта, на якую сталі працоўныя ў гонар дня выбараў. Новыя поспехі заваяваны шматлікімі калектывамі прамысловых прадпрыемстваў і хлебаробамі. Вось з-за гэтага настрой у людзей вясновы, святочны. Бо і сапраўды сёння свята — свята нашай народнай дэмакратыі — выбары.

Гасцінна расчыніліся дзверы выбарчых участкаў: сардэчна запрашаем, грамадзяне выбаршчыкі! І ты, рабочы, селянін, інтэлігент, са святочным настроем ідзеш туды, каб выканаць свой пачэсны грамадзянскі абавязак. Ідзеш з упэўненасцю за свой заўтрашні дзень, з гонарам за сваю Радзіму, як сапраўдны гаспадар свайго лёсу.

Перад гэтым ты галасаваў чатыры гады назад. Тэрмін параўнаўча невялікі. А запісаўся ён як чарговы этап вялікага прагрэсу і трывалых дасягненняў ва ўсіх галінах жыцця. Перадолелі мы на нашым шляху не адну цяжкасць і перашкоду, выканалі асноўныя заданні выбарчай праграмы з 1961 года. Прамысловая вытворчасць павялічылася на 39 працэнтаў, уступіла ў строй 100 вялікіх заводаў, пашырана сотні існуючых заводаў і шахтаў, развілася наша марская гаспадарка. Павялічыліся ўраджаі і ўзрасла гадоўля. У працягу мінулых 4 год пабудавалі мы каля 2500 школ. Сёння ў нашай краіне навучаецца ў школах розных ступеняў звыш 1/4 усяго грамадства.

Гэтыя поспехі цешаць. Вось чаму выбары з'яўляюцца адной з важнейшых падзей у жыцці краіны і праходзяць у абстаноўцы ўрачыстасці святочнага натхнення. Апускаючы выбарчыя бюлетэні ў урну, ты, сябра, галасуеш за далейшы росквіт нашай народнай Радзімы.

Не радавітасцю, не багаццем у нас славіцца чалавек. Пашану яму прыносіць праца на карысць народа, на карысць грамадства. Рабочы ля станка, хлебароб на полі, вучоны ў лабараторыі, педагог у школе ўносяць свой уклад у агульную справу — пабудову сацыялістычнага грамадства. Адносіны чалавека да працы, да памнажэння грамадскіх здабыткаў сталі ў нас своасаблівай меркай яго месца ў жыцці, павагі, аўтарытэту і давер'я да яго. На сваіх перадвыбарчых сходах працаўнікі прадпрыемстваў, вёсак, устаноў і арганізацый назвалі кандыдатамі лепшых людзей, тых, хто заслужыў гэтага гонару сваёй самаадданай працай, шчырасцю, добрасумленным выкананнем свайго грамадскага абавязку.

Хто ж яны, тыя, каго сёння выбірае наш народ, за каго аддаеш свой голас і ты, сябра? Гэта людзі працы, такія ж як і ты.

(Працяг на стар. 5)





# ГАЛАСУЮЧЫ ЗА КАНДЫДАТАЎ FJN - ГАЛАСУЕШ ЗА СВАЮ БУДУЧЫНЮ, ЗА ШЧАСЦЕ СВАІХ ДЗЯЦЕЙ

* * *

Не хапіла б рук, не хапіла б вачэй,
Каб абняць усю родную далячынь.
І гэты пляскотны чысты ручэй,
І гэту азёраў крохкую сінь,
І гэты стракаты ніў узор,
І небасхілаў дымную даль,
І гэты бор, і гэты чабор,
І гэту квецень калін на грудах...
Толькі ў сэрцы і можна адчуць,
Колькі багаццяў даў табе край.
І тое, чаго не змог дасягнуць,
І тое, якое — бяры, выбірай,
Якое з маленства — як хлеб, як соль,
Як сцюдзёнай са студні вады карэц,
Як матчына песня, як радасці боль,
Якому ў сэрцы гарэць — не згарэць...

**Кастусь Кірэенка**



 

## УКЛАД БЕЛАРУСКАГА НАРОДА Ў РАЗГРОМ ФАШЫСЦКІХ ЗАХОПНІКАЎ



Скульптура Героя Савецкага Саюза беларуса М. Гастэла. Ён свой гарэўшы самалёт накіраваў у калону танкаў і гераічна загінуў.

### 6 БЕЛАРУС--КІЯ ГЕРОІ

Звыш мільёна беларусаў змагалася на франтах Вялікай Айчыннай вайны, а на акупаванай тэрыторыі рэспублікі 370 тыс. партызан пры падтрымцы ўсяго беларускага народа вялі ў тыле ворага збройную барацьбу. Звыш 300 тыс. беларусаў — воінаў і звыш 100 тыс. партызан узнагароджаны ордэнамі і медалямі, 299 асоб удастоены высокага звання Героя Савецкага Саюза. З агульнага ліку ўзнагарод беларускім партызанам уручана 113 115 узнагарод ордэнамі і медалямі і 72 партызанам прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.



Герой Сацыялістычнай Працы Е. Чухнюк у гады Вялікай Айчыннай вайны працавала машыністам паравоза і дастаўляла на фронт боепрылады.



Беларус — Ф. Смалячкоў, Герой Савецкага Саюза са снайперскай вінтоўкі 126 патронамі знішчыў 125 гітлераўцаў.



Піянеры Мінска ля помніка свайго любімага героя-юнага беларускага партызана М. Казея.



Беларус — Герой Савецкага Саюза, гвардыі старшы лейтэнант А. Гаравец толькі ў адным паветраным баі 6 ліпеня 1943 года на Курскай дузе збіў дзевяць варожых самалётаў.

## НАД МАГІЛАЙ ПАРТЫЗАНА

З аказіі дня перамогі ў вёсцы Валілы, Беластоцкага павета, адбылася ўрачыстасць над магілаю партызана Антона Завадскага. Антон Завадскі быў родам з Валілаў і тут загінуў у барацьбе з фашысцкімі захопнікамі. Прысутныя выслухалі прамоў прадстаўнікоў улад і зләжылі вянкі на магіле. (п)

Вяртаўся дамоў. Ноч была ясная. Праз плывучыя воблакі прасвечваліся мігатлівыя зоркі, і здавалася мне, што па небе плывуць не воблакі, а тысячы залатых пацёрак.

У вачах блыталіся пасобныя словы і цэлыя сказы гэтай таямнічай дзяўчыны, якую я толькі што аставіў на ўскраіне Бельска. Сапраўды, хацелася мне рабіць так, як яна гаварыла, і я верыў, што са сваімі камсамольцамі я ўсё змагу зрабіць.

Месяць, два пазней, калі мяне, як сакратара Праневіцкай ячэйкі, папрасілі на раённую канферэнцыю, я пабачыў другі раз гэтую дзяўчыну, якую адводзіў у Бельск. Усе таварышы адносіліся да яе з адчувальнай пашанай, называлі сакратаром. Тады вось я даведаўся, што гэтая маладая дзяўчына з'яўляецца сакратаром Бельскага Райкома КПЗБ. Яе прозвішча ЛІДЗІЯ БЯЛЕЦКАЯ.

Сярод сваіх знаёмых прыпамінаю на гэтай канферэнцыі Піліпа Карсака, Назара Тымашука, Мікалая Стэльмашука, Жэню Астасевіч, Грышку Юшчука, Саньку Кацэйка.

Ад імя нашай ячэйкі выступаў Карсак. Гаварыў аб партыйнай рабоце праневіцкага падраёну. Падраён гэты ахопліваў наступныя вёскі: Праневічы, Плёскі, Гацькі, Храбалы, Райск, Плюцічы, Гусакі, Чарэўкі, Дзяніскі, Стацэвічы і некаторыя іншыя. Ва ўсіх гэтых вёсках дзейнічалі ячэйкі КПЗБ і нягледзячы на зверскі паліцэйскі тэрар, рассявалі яны сярод сялян голую праўду аб яснепанскай дзяржаве. У памяці асталося многа твараў таварышаў, хаця нямногіх цяпер змог бы ўжо назваць імёнамі. Вось хаця б узяць сям'ю Астасевічаў з Бельска. Гавару сям'ю, бо цэлая іх сям'я, як гэта часта здаралася, была скамунізаваная. Стары Астасевіч меў шавецкую майстэрню, а да шаўца, вядома, можна кожнаму зайсці. Прыймаў ён тады ад нас заказы на своеасаблівыя абсталюнкі і вядома было, што паведамленне напэўна дойдзе, куды адрасавана. Лепшы сувязны мог бы толькі прысніцца. Сын яго, Колька, сядзеў тады ў турме, а дачка, Жэня, актыўна дзейнічала разам з намі.

Прыпамінаецца мне Васька Каташэўскі з Бельска, член Гарадскога Камітэта КПЗБ, дзейнічаў сярод моладзі. Першы раз пасадзілі яго ў 1930 годзе на чатыры гады. Турма яшчэ больш замацавала маладога барацьбіта. Адсядзеўшы прыгавор, ён зноў дзейнічае. Гэтым разам яснепанскі суд засаджвае яго ў турму аж на 10 год. З казаматаў вызваліла Ваську Чырвоная Армія.

## КЛЯТВА У БЕЛАВЕЖЫ

**Віктар Швед — член Агульнапольскага Камітэта Міру**

На маю долю выпала шчасце быць у складзе дэлегацыі Агульнапольскага Камітэта Міру, якая прымала ўдзел ва ўрачыстасцях на Беласточчыне, прысвечаных адзначэнню дваццацігоддзя перамогі над нямецкім фашызмам. Тым больш прыемна, што ў гэтых урачыстасцях удзельнічала дэлегацыя Савецкага Камітэта Абароны Міру на чале з членам Прэзідыума СКАМ — рэктарам Інстытута грамадскіх навук — Хведарам Рыжэнка. У складзе дэлегацыі: трох масквічоў, шаснаццаць асоб з Мінска і Гродзеншчыны і толькі ж з Львоўскай вобласці. Пераважаючая колькасць членаў дэлегацыі гэта ветэраны Айчыннай вайны, франтавікі і ўдзельнікі партызанскага руху на савецкай і польскай зямлі, якія за пралітую крэў у барацьбе з фашысцкімі захопнікамі ўзнагароджаны высокімі ордэнамі СССР і Польскай Народнай Рэспублікі.

Вось знаёмлюся з удумлівым, шырокаплечым мужчынам, бясстрашным лётчыкам штурмавіком, на грудзях якога ззяе залатая зорка Героя Савецкага Саюза — Уладзімірам Парахневічам. Славуты герой прымаў удзел у вызваленні Беластока і ўсяе нашай краіны, а цяпер у радах Беларускага Камітэта Абароны Міру актыўна змагаецца за мірнае жыццё народаў.

З хваляваннем цісну рукі адважным партызанкам і партызанам, што змагаліся з ворагам на Гродзеншчыне і Беласточчыне, папулярнай «Ані» — Аўчыннікавай, Басінскай, Т. Шымко (народная артыстка БССР), А. Пебалю (сакратар Гродзенскага Абкома партыі), Мартынчыку (інструктар гэтага ж Абкома), С. Аудзейчыку (старшыня калгаса), М. Каленчэнка (дырэктар завода).

Мне, як літаратару і журналісту, надзвычай цікава было пазнаёміцца з беларускімі паэтамі і журналістамі, што знаходзіліся ў складзе дэлегацыі. Знаёмлюся з Аляксандрай Ус, Міхасём Сушай і Максімам Паўлючэнка — галоўнымі рэдактарамі беларускіх газет і часопісаў: «Работніца і Сялянка», «Чырвоная змена» і «Фізкультурнік Беларусі».

Таленавіты беларускі паэт Пімен Панчанка не першы ўжо раз на беластоцкай зямлі. Яшчэ ў 1939 годзе ён вызваляў Беласточчыну ад капіталістычнага гнёту. Пасля вераломнага нападзення гітлераўскай Германіі на Савецкі Саюз паэт ізноў у ваенным паходзе па франтах Вялікай Айчыннай вайны. Ён ваюе аружжам і палымяным словам. Аўтар паэмы «Беластоцкія вітрыны», напісанай у Беластоку ў 1940 годзе, змагаючыся за вызваленне Беларусі не забывае пра Беласток. У сваім вершы «Байцу, які першы ступіў на беларускую зямлю» паэт-трыбун заклікае:

(Працяг на стар. 4)

# Гумар і сатыра

## НАШЫ ДЗЕЦІ

— Ты бабулю любіш?

— Люблю.

— А дзядулю?

— Дзядуля сам сябе любіць.

Пятро Сушко

### ЕХАЎ ЯНКА...

Ехаў Янка па шашы —
Ажно пыл з-пад шынаў.
Мабыць, вёз ён кавуны,
Мабыць, журавіны.

Не на жарты «газануў»
У буфеце з Васем,
Слуп дарожны абярнуў,
Свой кавун расквасіў.

Узялі ў яго правы
І судзіць павінны.
Сыпле Янка ў рукавы
Слёзы-журавіны.

Без слоў.

### ГРУНТОЎНЫ АДКАЗ

Жонка: — Не пі больш: Ты ж і так п'яны. Пакінь лепш на заўтра.

Муж: — Ты ж сама мне колькі разоў казала: ніколі не адкладвай на заўтра тое, што можна зрабіць сёння.

### ДУЖАЯ МАМА

Сяргейка расказвае дружбаку:

— Мой тата смелы і дужы-дужы. Раку пераплывае. Адной рукой вялікую жалезную гіру падкідвае і ловіць, як мячык. А мама — ого, яшчэ смялей і дужэй. Яе сам тата баіцца.

## Між намі

Розніца паміж адвагай і асцярожнасцю. Адвага: падыйсці да баксёра і вылаяць яго пры ўсіх. Асцярожнасць: сказаць тое ж самае, але па тэлефоне.

### СЛУШНЫ АДКАЗ

— Дурань я быў, калі жаніўся на табе пяць год назад...

— Думаеш, ты стаў бы разумнейшы, каб мы пажаніліся сёлета?

### ПЕРАМОЖЦЫ

У адной з краін быў аб'яўлены конкурс на званне найразумнейшага мудраца. Прыз быў устаноўлены ў тры тысячы залатых. У конкурсе пажадала ўдзельнічаць усё дарослае насельніцтва.

Праз дзень быў аб'яўлены конкурс на званне найбольшага ідыёта. Прыз — дзесяць тысяч залатых. Усе адразу пераадрасавалі свае заяўкі на новы конкурс.

Апрача трох чалавек.

Кожны з іх атрымаў па дзесяць тысяч.

— Паглядзі, тата з мамай абмяркоўваюць, як нас выхоўваць...!

Першы прадказальнік пагоды.

## ЗНАЕМСТВЫ

Нашы дзяўчаты найпрыгажэйшыя на свеце, таму выбраць сярод іх адну-адзіную цяжкая справа.

У гарадах знаёмяцца хутчэй і лягчэй.

У скверах, на лаўках у алеях прыгажуні вядуць сябе па-рознаму. Некаторыя чытаюць кніжкі, другія займаюцца фокусамі.

Фокус як у цырку, цікавіць усіх, а асабліва кавалераў, і калі такі кавалер трохі падобны да чалавека, а не да чорта, знаёмства адбываецца хутка, без задзірак.

З тымі, якія чытаюць кніжкі, трэба пачынаць культурную размову:

— Выбачце, што вам перашкаджаю... Хачу спытаць, ці чыталі вы Кандрата Крапіву? А Івашкевіча чыталі?

Да вясковай дзяўчыны так не падыдзеш.

Востры язык маюць нашы дзяўчаты, кожнага і без мыла паголяць-пабрыюць.

Бываюць кавалеры больш вынаходлівыя. У ГС-аўскім клубе папіваюць каву дзве сяброўкі. У бландзінкі на грудзях блішчэла брошка — самалёцік. Хлапец за суседнім столікам доўга глядзеў на брошку і глядзеў. Дзяўчына заўважыла гэта і запытала:

— Падабаецца табе самалёт?

— Файны, але больш падабаецца мне аэрадром, — адказаў хлопец і падсеў да яе.

Бываюць агрэсіўнымі і дзяўчаты. Самі закідаюць вудачку з прыманкаю — на ўсмешку, на цэльнае слоўца, на залётны погляд і хлопцы клююць.

Напрыклад, я клюнуў на галёшы. Была вайна, восень, аб галёшах думаў. Уздыхаю і кажу дзяўчыне, як гэта прыемна ў слоту хадзіць у галёшах. Дзяўчына выйшла на хвілю, вярнулася і падала мне пару галёшаў. Думаю, добрая душа і глядзячы на галёшы здавалася мне, што гэта дзяўчына яшчэ больш стала прыгожай, чым мінуту раней.

Ажаніўся і галёшы збрыдлі да таго, што цяпер нават іх паху не магу сцярпець. Што ж, бываюць знаёмствы, ад якіх ужо ніяк не адзнаёмішся.

ДЗЯДЗЬКА ЛЯВОН

## УСЯЧЫНА

— Жыццёвыя канфлікты прыймаем спакойна.

### Ці хочаш быць вынаходцам?

(Бясплатныя курсы разумовай гімнастыкі)

Адказ на заданне з папярэдняга нумара:

Разлажыце дзесяць манет у выглядзе трохвугольніка вуглом уверх. Цяпер, перасунуўшы толькі тры манеты, зрабіце трохвугольнік вуглом уніз.

Развязка ў наступным нумары.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Сцяпана Казмерука з Клюкавіч, Сямяціцкага павета, змяшчаем песню

## ГАРМОНЬ ПЕВУЧАЯ

Расцвели за речкою
Яблони в саду
Гармониста я люблю
На свою беду.

**Припев.**
Гармонь певучая
Меня замучила,
А сердце девичье чего-то ждет.
В заволжской стороне
Любовь горит во мне,
Когда же милый мой меня поймет?

В сердце девичьем огонь
Да страдания.
Бсюду портит мне гармонь
С ним свидания.

**Припев.**

Все танцуют и поют
На гулянии.
Только я одна стою
Без внимания.

**Припев.**

А когда идут домой
Все с гуляния,
То опять он не со мной,
А с компанией.

**Припев.**

Сколько буду я за ним
Маяться ходить?
Дайте ж нам, друзья, одним
Вечерок побыть.

**Припев.**

Ніва

Adres redakcji Białystok ul. Wesołowskiego 1. Telefony red. naczelny 23-63, centrala [illegible]. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wilcza 46, Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4.70 $ w Europie, 5 $ w USA. Nakład 5458. Btk C-3.